

Асмалоўка – гэта унікальны раён, бо тут узведзеныя дамы па тыпавых праектах. Гэта першыя тыпавыя дамы ў Мінску, якія з'явіліся разам з жылой забудовай раёнаў трактарнага і аўтамабільнага заводаў. Аднак, нягледзячы на тое, што забудова Асмалоўкі тыповая, яна мае выразныя мастацкія рысы і ў планіроўцы, і ў архітэктурнай марфалогіі. Яе паасобныя будынкі былі запраектаваныя рознымі архітэктарамі ў Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях у Маскве, але планіроўку тэрыторыі давялося зрабіць аднаму з іх – Міхаілу Асмалоўскаму, які ў 1945–1951 гадах узначальваў Упраўленне па справах архітэктуры пры Савеце міністраў БССР. Менавіта яго прозвішча і дало народную назву гэтым кварталам пасярод колішняе Старажоўкі – “Асмалоўка”.



## Сяргей Харэўскі

Беларускі мастак, літаратар, гісторык мастацтва, культуролаг, мастацтвазнаўца. Вучыўся ў Менскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава, у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР, аспірантуры Беларускай акадэміі мастацтваў, Летняй школе Варшаўскага ўніверсітэта. Удзельнічаў у маладзёжным грамадскім аб'яднанні “Беларуская майстроўня”. Працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі, у інстытуце “Белспецпраектрэстаўрацыя”. Ад 2005 года выкладае ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільні. Аўтар кніг “СТО ТВОРАЎ ХХ СТАГОДДЗЯ. Нарысы па гісторыі беларускага мастацтва найноўшага часу”, “Культавае дойлідства Заходняй Беларусі”, “ПраМоўленае”, “ПраЧутае”.



## Андрэй Эзэрын

Па адукацыі – журналіст, па прафесіі – PR-кансультант, прадзюсар, па жыцці – гарадскі актывіст. З сярэдзіны 90-х мінулага стагоддзя – жыхар мінскай Асмалоўкі. Апантаны ідэяй не толькі захаваць атмасферны куток беларускай сталіцы, але і зрабіць тут унікальную пляцоўку для самых розных гарадскіх ініцыятыў, у першую чаргу, экалагічных. Разам з суседзямі, сябрамі, добраахвотнікамі ладзіць у Асмалоўцы суботнікі, святы, зялёныя акцыі. Упэўнены, што “Дамы і мары” – толькі пачатак і пра “зачараваны квартал” будзе яшчэ шмат і кніг, і фільмаў. Мадэратар блога **www.facebook.com/asmalouka.minsk**



## Віталь Раковіч

Па прафесіі – праграміст. Па жыцці – вандроўнік з фотаапаратам. За плячыма Каўказ, Якуція, Крым, Хібіны, Татры і, канечне, родная Беларусь. Член народнага фотаклуба “Мінск”, член Саюза фотамастакоў Беларусі. У актыве больш за сорак персанальных выстаў, арганізатар, куратар і ўдзельнік дзясяткаў сумесных выставачных фотапраектаў, пераможца многіх фатаграфічных Міжнародных і Рэспубліканскіх конкурсаў. Фотаздымкі захоўваюцца ў калекцыях Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, Доме Беларусі ў Варшаве, Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку, а таксама ў прыватных калекцыях Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, ЗША і Ізраіля. Аўтар дызайну і фатаграфій даведнікаў па знакавых мясцінах Беларусі.

www.budzma.by БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!

DESIGN by R2 STUDYA

СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ

# АСМАЛОЎКА: ДАМЫ І МАРЫ



R2 STUDYA

БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!



Сяргей Харэўскі

# Асмалоўка: Дамы і Мары




Будзьма беларусамі!
грамадская культурніцкая кампанія









# ВУЧЫМСЯ БЫЦЬ ГАРАДЖАНАМІ!

Асмалоўка — не толькі два атмасферныя кварталы ў сэрцы Мінска, частка легендарнай Старажоўкі. Для мяне перш за ўсё гэта людзі — і тыя, што жылі тут адразу пасля вайны, і мае сённяшнія суседзі — амаль 900 чалавек. Іх энергія, таленты, чалавечыя гісторыі надалі асаблівую харызму двухпавярховікам за Оперным тэатрам.

Мае суседзі — мастакі, юрысты, праграмісты, настаўнікі, будаўнікі, людзі самых розных прафесій. Сёння разам мы вучымся быць гараджанамі: не толькі абараняем квартал ад знішчэння, але і робім яго лепшым падчас сумесных акцый. Не ўсё ідзе проста, але галоўнае, што крок за крокам, ад суботніка да фэсту і сумеснага свята, наша кола расце, мы знаёмімся і дапамагаем адно аднаму. Пастулова прыходзіць разуменне, што мы — суседзі, якіх аб'яднаў унікальны квартал у цэнтры вялікага горада.

У нас шмат сяброў па-за межамі Асмалоўкі — многім мінчукам сёння не варта тлумачыць, чаму раён павінен застацца на мапе Мінска. Мы ўдзячныя ўсім за дапамогу і спадзяемся, што наш грамадскі досвед стане добрым узорам. Часам я чую: “Вам, асмалоўскім, пашанцавала і з месцам, і з жыхарамі — яны свядомыя і энергічныя”. Тады я кажу, што пры моцным жаданні можна зрабіць знакамітай і звычайную хрушчоўку. Хочаш жыць лепш — не сядзі “ў тэлевізары”, а ідзі да людзей”.

Я шчыра ўдзячны ўсім, хто спрычыніўся да стварэння кнігі, атрымаўся ў пэўным сэнсе рарытэт — ці ёсць яшчэ ў нас выданні пра гарадскі квартал? Спадзяюся, што гэты прыклад падштурхне людзей на тое, каб расказаць пра свае “дамы і мары”, унікальныя гарадскія раёны, якімі багатая наша Бацькаўшчына.

**Андрэй Эзерын, грамадзянін Асмалоўкі.**












# FOREWORD
# ПРАДМОВА

*Аўтар выказвае шчырую падзяку Вадзіму Зелянкову і Івану Сацукевічу за дапамогу.*

Пасярод Мінска, што паўстаў наноў пасля вялікае вайны, ёсць два кварталы, якія схаваліся, нібы зачараваныя зялёныя астравы ў атачэнні тлумных дарог, у колішнім прадмесці Старажоўка, за велічным гмахам Оперы. Гэтыя два кварталы і ёсць гістарычная Старажоўка. Колісь тут шчыльна стаялі хаты ў засені садоў. Пры тым кварталы захавалі тапаграфію і планіроўку Старажоўкі пачатку XIX стагоддзя, то бок – свой рэчаісны радавод.

**In the center of Minsk, which was rebuilt anew after World War II, behind the majestic vast building of the Opera Theater, there are two quarters hiding like enchanted green islands surrounded by noisy streets in the former suburb called Staražoŭka. Actually, these two quarters are historical Staražoŭka. Many years ago, there used to be numerous huts drowned in lush garden greenery. These quarters still have the topography and planning of Staražoŭka of the early 19th century, which make them quite unique.**







Гэтыя два невялікія кварталы, абмежаваныя вуліцамі Камуністычная, Куйбышава, Кісялёва, Максіма Багдановіча, ужо сталіся гістарычным цэнтрам нашага горада. Тут, у шатах старых дрэваў, зберагліся дамы і двары, якім было наканавана зрабіцца сімвалам жывое сталічнае традыцыі. Тут выгадаваліся два паваенныя пакаленні жыхароў, якія сталі сведкамі невераемных пераўтварэнняў навакольнага свету.

Асмалоўка – гэта ўнікальны раён, бо тут узведзеныя дамы па тыпавых праектах. Гэта першыя тыпавыя дамы ў Мінску, якія з'явіліся разам з жылой забудовай раёнаў трактарнага і аўтамабільнага заводаў. Аднак, нягледзячы на тое, што забудова Асмалоўкі тыповая, яна мае выразныя мастацкія рысы і ў пландроўцы, і ў архітэктурнай марфалогіі. Яе паасобныя будынкі былі запраектаваныя рознымі архітэктарамі ў Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях у Маскве, але пландроўку тэрыторыі давялося зрабіць аднаму з іх – Міхаілу Асмалоўскаму, які ў 1945–1951 гадах узначальваў Упраўленне па справах архітэктуры пры Савеце міністраў БССР. Менавіта яго прозвішча і дало народную назву гэтым кварталам пасярод колішняе Старажоўкі – "Асмалоўка". Атачаны з усіх бакоў больш манументальнымі будынкамі і шумнымі вуліцамі, гэты раён здаецца несувымерна мініяцюрным, нібы схаваным у вялікай шурпатай далоні імкліва растучага горада. Урэшце першапачатковая з'едлівая канатацыя гутарковай назвы "вёскі" Асмалоўкі знікла, набрыняўшы зусім іншым зместам у XXI стагоддзі. Сёння Асмалоўка – гэта ўнікальны атмасферны асяродак, выкананы ў класічнай архітэктурнай традыцыі і сумаштабны чалавеку. Вышыня дамоў не перасягае двух паверхаў, пры праектаванні былі выкарыстаныя шматлікія архітэктурныя элементы, запазычаныя з еўрапейскай спадчыны: трохкутныя франтоны, эркеры, контрфорсы, галерэі.

Мінскія ўлады неаднаразова хацелі зруйнаваць гэты квартал, каб забудаваць новымі гмахамі. Асноўным аргументам на карысць разбурэння застаецца тое, што перыяд эксплуатацыі дамоў на Асмалоўцы нібы скончыўся ўжо праз 50 гадоў пасля пабудовы. Інжынерныя сеткі зношаныя, дамы, пры будаўніцтве якіх ужываліся драўляныя канструктыўныя элементы, не адпавядаюць сучасным стандартам. Аднак лёс быў літасцівым да гэтых унікальных кварталаў, што працягваюць жыць сваім незвычайным жыццём. Але апошнім часам зноў распачаліся спрэчкі вакол будучыні старое Асмалоўкі, яе гістарычнай каштоўнасці ды архітэктурных вартасцяў. Выходзіць, што менавіта тут і цяпер вырашаецца, як мы будзем ставіцца да гэтае часткі нашае ўрбаністычнае традыцыі, што шанаваць, чым даражыць і як жыць далей з гэткай спадчынай…



**At various times, the Minsk authorities wanted to destroy this quarter so as to build this area up with new blocks of flats. The basic argument supporting the demolition of this quarter is that the operational cycle of the houses in Asmałoŭka ended 50 years after they were built. Utility networks are worn out; when these houses were built, wooden structural elements were used – and now they do not meet contemporary standards. However, fate was kind to these unique quarters and they continue to lead their unusual life. Still, recently, wrangles concerning the future of old Asmałoŭka, its historical value and architectural worth, have blazed up again. It turns out that right here and right now we have to choose the way we shall treat this part of our urbanistic tradition, what we shall value, and how we shall live with our heritage…**






# ARCHITECTS ДОЙЛІДЫ

Выбар месца вызначаўся наяўнасцю камунікацый, бо непадалёк ад цяперашняй Асмалоўкі ўжо стаяў будынак Опернага тэатра і захаваліся фрагменты даваенных кварталаў паабапал. Да вайны гэтыя два кварталы былі шчыльна забудаваныя малапавярховымі дамкамі сядзібнага тыпу. Пераважна гэта была драўляная забудова, за выключэннем двух капітальных мураваных будынкаў. Ужо ў чэрвені 1941 года гэтыя кварталы былі цалкам панішчаныя нацысцкімі бамбардзіроўкамі. У выніку па вайне гэтыя кварталы ўяўлялі сабою выпаленыя пусткі з падмуркамі і комінамі спаленых дамоў. І менавіта тут з 1945 года пачынаецца будаўніцтва жылога комплексу паводле праектаў М. Паруснікава, А. Даніляка, М. Асмалоўскага і М. Ручко.

Кім былі гэтыя дойліды і якім чынам лёс звёў іх разам?

**Who were these architects and how did they come to work together?**

## МІХАІЛ СЦЯПАНАВІЧ АСМАЛОЎСКІ

Архітэктар Міхаіл Сцяпанавіч Асмалоўскі, чыё прозвішча і замацавалася за народнай назваю раёна, нарадзіўся ў 1904 годзе ў мястэчку Асмолавічы Клімавіцкага павета, на Магілёўшчыне. Ён скончыў у 1931 годзе Маскоўскі інстытут інжынераў землеўпарадкавання, дзе пасля і працаваў. Але па вайне, з 1945 да 1951 года, Міхаіл Асмалоўскі працаваў начальнікам Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. Акурат на гэты час і прыпадае ягоны беларускі перыяд: у Мінску ён быў суаўтарам некалькіх буйных праектаў – планіроўкі Савецкага раёна, праекта забудовы праспекта Сталіна і Цэнтральнай плошчы, стварыў планіроўку вёскі Лукомль Чашніцкага раёна ды некаторых яшчэ драбнейшых праектаў. А перадусім гэты вядомы й шанаваны планіроўшчык тэрыторыяў быў вялікім чыноўнікам, абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР у 1947–1955 гадах. Тут, у Беларусі, ён напісаў некалькі кніг па архітэктуры. Пасля адбудовы Мінска, пасля ХХ з'езду КПСС, дзе быў асуджаны культ асобы Сталіна, ён вярнуўся ў Маскву, дзе заняўся ўрэшце любімай ім выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю. Міхаіл Асмалоўскі ў 1962–1977 гадах загадваў кафедрай Маскоўскага інстытута інжынераў землеўпарадкавання, дзе выгадаваў цэлую генерацыю савецкіх інжынераў-землеўпарадчыкаў. Менавіта ён і стаў аўтарам планіроўкі двух кварталаў. А таксама Міхаіл Асмалоўскі разам з украінскім архітэктарам Міхаілам Ручко распрацаваў у маскоўскіх Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях тыпавы праект 1-205-5 жылога дома серыі 1-205, што быў выкарыстаны для забудовы раёна.

**Architect Michajił Ściapanavič Asmałoŭski, whose surname became the colloquial name for this area, was born in 1904 in the small town of Asmolavičy in the Klimavičy Rajon (District) of the Mahiloŭ Vobłaść (Region). In 1931, he graduated from the Moscow Institute of Land Management Engineers and stayed to work there. After the war, in 1945-1951, Michajił Asmałoŭski worked as head of the Architecture Department at the Council of Ministers of the Byelorussian SSR.**





## МІХАІЛ ПАЎЛАВІЧ ПАРУСНІКАЎ

У многіх мінскіх праектах Міхаіл Асмалоўскі выступаў у ролі суаўтара славутага маскоўскага дойліда Міхаіла Паруснікава, чые творы даўно прызнаныя помнікамі архітэктуры і надзвычай важнымі горадаўтваральнымі аб'ектамі сталіцы Беларусі. Міхаіл Паруснікаў нарадзіўся ў 1893 годзе, скончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства, а потым Вышэйшыя мастацка-тэхнічныя майстэрні. Падчас вайны М. Паруснікаў працаваў на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка Акадэміі архітэктуры СССР. Ён быў аўтарам праектаў для Яраслаўля, Астрахані, Масквы. З 1944 года ён ачоліў архітэктурна-праектныя майстэрні Камітэта па справах архітэктуры СССР, дзе і былі створаныя праекты, выкарыстаныя для забудовы Асмалоўкі. Ужо ўвесну 1945 года ён праектаваў і кіраваў будаваннем гмаха Міністэрства дзяржбяспекі БССР. У 1968 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. Разам з іншымі архітэктарамі Міхаіл Паруснікаў распрацаваў эскіз планіроўкі Мінска, у суаўтарстве з Міхаілам Асмалоўскім ды іншымі архітэктарамі ён распрацоўваў і праект забудовы вуліцы Савецкая (праспекта Сталіна – Незалежнасці). Адначасова Паруснікаў разам з Асмалоўскім працавалі над стварэннем ансамбля Цэнтральнае плошчы. За дзесяць паваенных гадоў паводле праектаў Паруснікава ў нашай краіне збудавалі дзясяткі аб'ектаў, у тым ліку такія славутыя, як будынак Нацыянальнага банка, жылыя дамы па галоўным праспекце і прылеглых вуліцах і плошчах, мост праз раку Свіслач у Мінску, а паводле ягоных тыпавых праектаў ставіліся будынкі ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі. Міхаіл Паруснікаў быў і суаўтарам спартыўнага комплексу “Дынама”. А таксама некалькі будынкаў, створаных паводле тыпавога праекту 1-205-6 акадэміка М. Паруснікава, былі пастаўленыя і на Асмалоўцы.

**In many Minsk projects, Michajił Asmałoŭski was a co-author of the renowned Moscow architect Mikhail Parusnikov, whose works are recognized as monuments of architecture and extremely important objects of the capital of Belarus. Mikhail Parusnikov was born in 1893. He graduated from the Moscow School of Painting, Sculpture, and Architecture, and then - from the Vkhutemas (Higher Art and Technical Studios).**

## МІХАІЛ ЯКАЎЛЕВІЧ РУЧКО

Ручко Міхаіл Якаўлевіч нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Глобіна Палтаўскай вобласці Украіны. Скончыў архітэктурны факультэт Кіеўскага мастацкага інстытута. Да вайны працаваў у Кіеве, браў удзел у распрацоўцы многіх вядомых праектаў, у тым ліку і славутага жылога дома Кіеўскай вайсковай акругі, што каля Сафійскага сабора. Пасля вайны М. Ручко жыў у Маскве, дзе працаваў архітэктарам у Архітэктурна-будаўнічым аддзеле праектна-канструктарскага бюро Мосэнерга. Дамы паводле ягоных праектаў ёсць у многіх гарадах Украіны і Расіі. Дарэчы, разам з Асмалоўскім Міхаіл Ручко рэалізаваў яшчэ адзін супольны маштабны праект – мікрараён ва ўкраінскім горадзе Днепрадзяржынску. Там будынкі паводле іх тыпавога праекта з'явіліся таксама напрыканцы 1940-х, з пачаткам будаўніцтва завода шлакавых мінеральных угнаенняў, што пазней стаў вялікім тамтэйшым прадпрыемствам – Прыдняпроўскім хімічным заводам.

**Mikhail Yakovlevich Ruchko was born in 1907 in the village of Hlobina in the Poltava Region, Ukraine. He graduated from the Department of Architecture in the Kiev Art Institute. Before the war, he worked in Kiev and took part in the development of many well-known projects, including the famous apartment house of the Kiev Military District near the Saint Sophia Cathedral.**

| Наименование | жил. площ кв. м. | пл жил. ком кв м. | полезн пл. кв м. | строит кув. куб. м | число квартир |
|---|---|---|---|---|---|
| 2<sup></sup>х комнатная квартира | 34.92 | 34.92 | 55.13 | 274 60 | 6 |
| 3х комнатная квартира | 47.65 | 47.65 | 67.86 | 375.45 | 2 |
| по дому | 304.82 | 304.82 | 466.50 | 2398.50 | 8 |
| Строительная кубатура на 1 кв. м жилой площ куб м. 7.87 | | | | | |

| | | |
|---|---|---|
| Государственные архитектурные мастерские | Автор-арх. Даниляк А.З. Мастерская члена корреспондента ВАА Соболева И.Н. | Л~21 |





## АБРАМ ЗАХАРАВІЧ ДАНІЛЯК

Аўтарам трэцяга тыпавога праекта 1-05-7, якому знайшлося месца на Асмалоўцы, быў таксама ўкраінскі архітэктар Абрам Захаравіч Даніляк, вядомы сваімі праектамі для малых гарадоў Расіі і Украіны. Гэты праект быў зроблены ім у Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях, а менавіта ў майстэрні пад кіраўніцтвам Івана Собалева, славутага савецкага архітэктара. Іван Мікалаевіч Собалеў нарадзіўся ў 1903 годзе ў Маскве, вучыўся у ВХУТЕМАСе, дзе яго выкладчыкам быў наш славуты зямляк, родам з Пінска – Іван Жалтоўскі, будучы геніяльны дойлід. Собалеў, як і Парушнікаў, працаваў у створаных Жалтоўскім майстэрнях Масcавета. Такім чынам, праектанты Асмалоўкі – вучні Івана Жалтоўскага. Пазней Собалеў стане насамрэч славутым архітэктарам, членам-карэспандэнтам Акадэміі архітэктуры СССР, прафесарам, ачоліць уласную кафедру праектавання грамадскіх будынкаў Маскоўскага архітэктурнага інстытута (Мархі). Абрам Даніляк пазней абраў сабе кар'еру даследчыка, навукоўца, стаўшы кандыдатам архітэктуры і аўтарам многіх артыкулаў і кніг.

**The author of the third standard project, №1-205-7, which was built in Asmałoŭka, was the Ukrainian architect Abram Zakharovich Danilyak, who is known for his projects in Russian and Ukrainian towns. He made this project in the State Architectural Studios, namely in the workshop headed by Ivan Sobolev, the well-known Soviet architect. Ivan Nikolayevich Sobolev was born in 1903 in Moscow. He studied in the Vkhutemas, where his teacher was our famous fellow countryman born in Pinsk - Ivan Žałtoŭski, the future ingenious architect. Both Sobolev and Parusnikov worked in the studios of the Mossovet (Moscow Soviet of People's Deputies), which were created by Ivan Žałtoŭski. Thus, the planners of Asmałoŭka are Žałtoŭski's pupils.**

Невядома з якіх прычынаў, але ў сваёй кнізе “Минск” з серыі “Архитектура городов СССР” Міхаіл Асмалоўскі, апісваючы будаўніцтва гэтых кварталаў, не згадае ні Парусніква, ні Собалева, ні Даніляка: “Близ центрального района города в 1950 году будет закончена застройка двух жилых кварталов типовыми восьмиквартирными домами (арх. М.С. Осмоловский при участии арх. М.Я. Ручко). Всего в кварталах будет построено более 40 жилых домов, электрифицированных, оборудованных водопроводом и канализацией”. Бадай, пры выкарыстанні тыпавых праектаў іх канкрэтнае аўтарства ўжо не ўлічвалася. Нават акадэміка Міхаіла Парусніква. Істотным было тое, хто расплануе тэрыторыю і парадак размяшчэння на ёй будынкаў. А гэта зрабіў Міхаіл Асмалоўскі, на той час – начальнік Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. То бок гэта была ягоная эпоха. А Асмалоўка сталася яе ўвасабленнем.











# HOUSES
# ДАМЫ

Панішчаны ў часе вайны Мінск перараблялі і разбудоўвалі надзвычай шпарка. Патрэба ў жыллі была велізарнай, а на ўзвядзенне шматкватэрных дамоў неабходна было нямала часу. І Асмалоўскі прапанаваў выйсце – будаваць на перыферыйных вуліцах двухпавярховыя тыпавыя дамы з адным-двума пад'ездамі, без дэкаратыўных празмернасцяў, з кватэрамі адносна невялікіх памераў. Серыя 1-205, распрацаваная ў 1946 годзе ў Дзяржаўных архітэктурных майстэрнях, хутка прадэманстравала сваю рацыянальнасць і была рэкамендаваная для будаўніцтва, найперш – у заходніх рэгіёнах СССР.

**Two residential quarters within the boundaries of Bahdanovič, Kiselyov, Kuibyshev, and Communist Streets started to be created in 1945 and were completed in 1950. This architectural ensemble is among the first in Minsk and, fortunately, it still exists today. After the war, there were only ruins of destroyed buildings and pipes of stoves in burned houses here; therefore, Belarusan architects and planners actually worked on this complex from the ground up. To embody this plan, three projects were selected; according to them, 40 houses were constructed. Later, in the mid-sixties, in the center of both quarters, two-storied kindergartens were built; they are commensurate with the whole ensemble, which happened to be very human and comfortable, right in the center of the capital.**











Дамы-блізнюкі будынкаў з Асмалоўкі можна сустрэць да сёння ў Баранавічах, Гродне, Магілёве, Маладзечне, а таксама ў малых гарадах Літвы, Расіі, Украіны, Эстоніі. У Мінску былі рэалізаваныя тры праекты з гэтай серыі, а менавіта – двухпавярховыя 8-кватэрныя цагляныя дамы з пячным ацяпленнем, водаправодам і каналізацыяй. У іх былі трох-, двух- і аднапакаёвыя кватэры пры вышыні столяў, зайздроснай для наступных пакаленнняў – ад 295 см. Пры тым, як пісаў у сваёй кнізе сам Міхаіл Асмалоўскі: “В каждой квартире этих домов предусмотрены подвальные помещения для хозяйственных нужд с тем, чтобы внутри квартала никаких вспомогательных построек не возводилось”. Гэта было відавочным наватарствам, стварала якасна іншыя, чым у папярэднія эпохі, умовы побыту ў сталіцы.

Два жылыя кварталы ў межах цяперашніх вуліцаў Багдановіча – Кісялёва – Куйбышава – Камуністычнай пачалі ствараць у 1945 годзе і завяршылі ў 1950-м. Гэты архітэктурны ансамбль – адзін з першых у Мінску, і, на шчасце, ён ацалеў да нашых дзён. Пасля вайны тут былі спрэс парэшткі колішніх будынкаў ды коміны ад пагарэлых хатаў, таму беларускія архітэктары-планіроўшчыкі працавалі над гэтым комплексам фактычна на пустцы. Для ўвасаблення задумы былі адабраныя тры праекты, паводле якіх былі пабудаваныя 40 дамоў. Пазней, у сярэдзіне 1960-х, у цэнтры абодвух кварталаў паставілі двухпавярховыя дзіцячыя садкі, сумаштабныя ўсяму ансамблю. Атрымалася вельмі чалавечнае і камфортнае гарадское асяроддзе ў цэнтры вялікай сталіцы. Жылыя дамы хоць і праектаваліся рознымі архітэктарамі, аднак вырашаныя ў агульным рэтраспектыўным кшталце. Стылістычна яны простыя, але архітэктары актыўна натхняліся еўрапейскай спадчынай: дамы







ўпрыгожваюць імпазнатныя эркеры, порцік, паддашкавыя аканіцы ў выглядзе сонечных промняў, балконы з элегантнымі балясінамі, рэльефы на тарцах. Адначасна гэта была апеляцыя да колішняй мінскай традыцыі, бо гэтыя кварталы паўсталі сярод ужо існай, пераважна двухпавярховай забудовы. Наватарства Асмалоўскага палягае яшчэ і ў тым, што кварталы маюць свабодную планіроўку. Кожны панадворак унікальны. Яны злучаныя міжсобку пешаходнымі пераходамі, гарманічна спалучаючца адзін з адным, дазваляючы здзяйсняць тут шпацыры.

Адной з трывалых легендаў да нашых дзён застаецца й тое, што гэты раён будавалі немцы, якія трапілі ў савецкі палон. Цікава, што тое ж самае гавораць і ва ўкраінскім Днепрадзяржынску, дзе М. Асмалоўскі з І. Ручко таксама ўзвялі падобны мікрараён. Але там яго будавалі ўсё ж не толькі палонныя, але й інтэрнаваныя з пачаткам вайны ў глыбіні Азіі савецкія немцы з 10-тысячнай гэтак званай “Працоўнай арміі немцаў Паволжа”. Што да Асмалоўкі, то тут ёсць некаторыя разыходжанні ў сведчаннях старажылаў. Часта згадваюць тое, што раён будаваўся рукамі не толькі ваеннапалонных немцаў. Немцы будавалі дамы № 34 і 36. Віталь Кірычэнка, аўтар славутых альбомаў па гісторыі Мінска, сцвярджае, што на будоўлях тут працавалі палонныя італьянцы, венгры і румыны. Працавалі тут і савецкія салдаты са штрафных батальёнаў. Напрыклад, штрафны будаўнічы батальён узводзіў дом № 34а. Гэты будынак пазней называлі “домам лётчыкаў”. Квартал быў абнесены калючым дротам, яго строга вартавалі савецкія салдаты…











Самыя першыя будынкі на Асмалоўцы былі цалкам здадзеныя ў эксплуатацыю ўжо ў 1947 годзе, апошнія – у 1950. Жылыя дамы гэтак званага "Першага квартала", як яго называе вядомы мінскі гісторык Іван Сацукевіч, былі перададзеныя афіцэрскім сем'ям Беларускай вайсковай акругі. Першапачаткова тут сяліліся савецкія афіцэры, супрацоўнікі штаба, бо за два крокі ад Асмалоўкі знаходзіўся штаб Беларускай вайсковай акругі. Многія з іх толькі-толькі вярнуліся з Еўропы, іх трэба было дзесьці размяшчаць; імаверна, менавіта для іх першапачаткова мікраён і праектаваўся, і першая чарга яго, паміж Багдановіча і Чычэрына, сярод жыхароў атрымала назву "ваенны гарадок". Сяліліся тут таксама афіцэры-героі, інваліды вайны. Дакументальнае пацверджанне гэтаму таксама прыводзіць даследчык Іван Сацукевіч, звяртаючы ўвагу на тое, што на схемах кварталаў Мінска БТІ 1955 года дамы на схеме не пазначаныя – гэта патрабаванне сакрэтнасці да вайсковых аб'ектаў. Менавіта ў гэты час тут служылі і жылі такія славутыя савецкія военачальнікі – маршал Сямён Цімашэнка і генерал-палкоўнік Аляксей Бурдзейны, чые дамы былі на Старажоўцы побач, на другі бок цяперашняе вуліцы Багдановіча.

**It is often mentioned that this area was built not only by German prisoners of war. Germans built houses №34 and №36. Vital Kiryčenka, the author of the well-known albums dedicated to the history of Minsk, says that Italian, Hungarian, and Romanian POWs worked here as well. There were Soviet soldiers from penal battalions, who worked here, too. For example, people from a penal battalion built house №34a.**





Тым часам будынкі "Другога", як яго называе гісторык Сацукевіч, квартала прысутнічаюць на схеме, і там пазначаныя ўсе арганізацыі, якія атрымалі дамы пад жыллё. Суседзямі савецкіх афіцэраў сталі гэткім чынам работнікі міністэрстваў і савецкая прафесура, пазней – артысты Тэатра оперы і балета, размешчанага непадалёк. Адразу ж некалькі кватэраў мастакам і артыстам здолеў атрымаць для свайго ведамства тагачасны кіраўнік упраўлення па справах мастацтваў Павел Лютаровіч. Тады ж у Асмалоўкі на пэўны час з'явілася яшчэ адна, іранічная, назва – "пасёлак Лютаровіча".

У 1950-я гады абодва кварталы былі цалкам абнесеныя драўлянай агароджаю, некаторыя фрагменты ад якое ацалелі да нашых дзён. Іх можна ўбачыць месцамі па перыметры: рэшткі веснічак, узорных брамаў, мураваных слупы.

Брамкі зачыняліся на ноч і, як кажуць старажылы, сюды ніяк немагчыма было зайсці, апроч як па прапусках ці на асабістае запрашэнне жыхароў. У выніку Асмалоўка жыла цалкам сваім апрычоным жыццём, адрозным ад жыцця астатняе сталіцы й яе прадмесцяў. Летам на Асмалоўцы падчас святаў у дварах рабіліся супольныя пачосткі, а зімой застольі-бяседы ладзіліся ў прасторных калідорах. Жыхары мікрараёна любілі адзначаць святы калектыўна, як тады было прынята...













DESTINIES

# ЛЁСЫ



Квартал, што бліжэй да цяперашняе вуліцы Багдановіча, ад пачатку будаваўся для афіцэраў штаба і быў заселены афіцэрскімі сем'ямі. Суседзі называлі яго "ваенным гарадком". Для вайскоўцаў і іх сем'яў пасярод квартала збудавалі бамбасховішча, што, дарэчы, ацалела. Калі засяляліся, палкоўнікі і падпалкоўнікі самі выбіралі кватэры. Зазначым: у тыя гады першы паверх лічыўся прэстыжнейшым за другі. Пад вокнамі з дома на службу і назад праязджаў па Мопраўскай камандуючы вайсковай акругі маршал Савецкага Саюза Сямён Цімашэнка. Ён жыў у асобным доме, дзе сёння месціцца пасольства Расіі. Старажылы добра памятаюць элегантную зялёную "Пабеду" маршала Цімашэнкі. Пазней сюды, на Асмалоўку, да свайго брата Паўла, прыязджаў і сам Пётр Машэраў.

**From the very beginning, the quarter, which is closer to the present Bahdanovič Street, was built specially for staff officers and was inhabited by these officers' families. Neighbors called it a "cantonment". In the center of the quarter, a bombproof shelter was built for military men and their families; it still exists, by the way. When the houses were built, colonels and lieutenant colonels themselves chose their apartments. In those days, the ground floor was considered to be more prestigious than the first one. Semion Timoshenko, the Commander-in-Chief of the Military District, Marshal of the Soviet Union, used to go to and from work along this street, past the windows of these houses.**

Генерал-маёр Павел Машэраў (1914–1988) быў высокапастаўленым ідэолагам, загадчыкам палітаддзела штаба Беларускае вайсковае акругі. Тут жа сама, у гэтым квартале, у "доме лётчыкаў" жыў герой Савецкага Саюза Мікалай Стайкоў (1921–1964), славуты пілот, які асабіста ўдзельнічаў у знішчэнні 35 фашысцкіх самалётаў. А вось тая частка квартала, што звернутая да вуліцы Куйбышава, была сціплейшай, не такой прэстыжнай, і часовыя афіцэрскія кватэры, урэшце, ператвараліся ў камуналкі.

Другі квартал празвалі "пасёлкам Лютаровіча", у гонар Паўла Вікенцьевіча Лютаровіча (1907–1973), вядомага ў свой час дзеяча культуры, мастацкага крытыка, які ў тыя гады займаў пасаду начальніка ўпраўлення па справах мастацтваў пры ўрадзе Беларусі. Менавіта пры ім і дзякуючы ягонай ініцыятыўнасці ўдалося пасяліць тут сем'і мастакоў. Першапачаткова ў гэтым квартале жылі таксама выкладчыкі БДУ, служачыя Галоўмінбуда, былыя артысты Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, што быў расфармаваны ўжо ў 1949 годзе – Марк Моін і Юдзіф Арончык. Слынны знаўца гісторыі Мінска, кандыдат фізіка-матэматычных навук Вадзім Зелянкоў знайшоў адрасы дзясяткаў дзеячоў навукі, культуры, вядомых юрыстаў і чыноўнікаў, якія жылі на Асмалоўцы. Сярод іншых ён згадвае заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР Міхаіла Бадзяку, заслужанага настаўніка БССР, узнагароджанага ордэнам Леніна, Пятра Дзівакова, Ніну Навасёлаву – вядомую юрыстку, крыміналістку, пісьменніцу і самадзейную мастачку ды многіх іншых, чые лёсы зніталіся з гэтым раёнам горада.

Тут запачаткоўваліся цэлыя дынастыі беларускае інтэлігенцыі. Напрыклад, аднымі з першых на Асмалоўцы пасяліліся мастакоўская сям'я Шыбнёвых. Анатоль Шыбнёў, сын вядомага ва Украіне мастака Даміяна Шыбнёва, скончыў Адэскі мастацкі інстытут і Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры ў Ленінградзе. А напярэдадні вайны быў накіраваны на працу ў Брэст, разам з жонкаю Таццянай Разінай, таксама былой выпускніцай Адэскага мастацкага інстытута, якая перад вайною працавала галоўным мастаком Брэсцкага рускага тэатра. З 1944 года гэтая сям'я ўжо стала жыла і працавала ў Мінску. Тут, у доме № 35, на цяперашняй вуліцы Кісялёва, вырас Яўген Шыбнёў – сын Анатоля Шыбнёва. Закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, як і яго жонка Ніна Голышава. Аляксандр Яўгенавіч Шыбнёў скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, гэтаксама, як і ягоная жонка Ірына Мойгіс, якая таксама скончыла Беларускую Акадэмію мастацтваў і цяпер працуе як мастак-кераміст.









Таксама ў доме №35 на Кісялёва жыла легендарная сям'я Бржазоўскіх. Генрых Францавіч – выбітны беларускі жывапісец, карэнны мінчук, чый бацька-мастак аздабляў Чырвоны касцёл. Бржазоўскі скончыў яшчэ ў 1933 годзе славуты Віцебскі мастацкі тэхнікум. Стварыў больш за 2 тысячы палотнаў, што захоўваюцца цяпер у самых розных краінах свету. Тут нарадзілася ў 1946 годзе яго дачка – Людміла Бржазоўская – славутая беларуская балерына і педагог Вялікага тэатра оперы і балета. Яна ўжо з 1966 года працавала артысткай балета Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Яе таленту апладзіравалі больш чым у 30 краінах. У 1975 годзе атрымала званне Народнай артысткі Беларускай ССР, у 29 гадоў! Дарэчы, яна і сама захаплялася мастацкай творчасцю – пісала пейзажы і нацюрморты. У іх кватэры на Асмалоўцы апроч твораў самой Людмілы Бржазоўскай, твораў бацькі і сястры-мастачкі, былі карціны прызнаных мастакоў, напрыклад, два партрэты, якія выканаў Барыс Забораў. А парадны партрэт самой балерыны, напісаны Аляксандрам Шастаковым, можна ўбачыць у Нацыянальным мастацкім музеі.

**Also, in house №35 on Kiselyov Street, there lived the legendary family of the Bržazoŭskis. Hienrych Francavič Bržazoŭski was an outstanding Belarusan painter; he was born in Minsk. His father was an artist who worked in the Red Catholic Church in Minsk. In 1933, Bržazoŭski graduated from the famous Art Technical School in Viciebsk. He created more than 2,000 works that are now in various countries of the world. Here, his daughter, Ludmiła Bržazoŭskaïa, was born in 1946; she was a prominent Belarusan ballerina and a tutor at the Bolshoi Opera and Ballet Theater. Since 1966, she worked as a ballet dancer at the State Academic Bolshoi Opera and Ballet Theater of Belarus. Her talent was recognized in more than 30 countries. In 1975, she received the title of the People's Actress of the Byelorussian SSR – she was only 29 years old!**

У гэтым самым “мастакоўскім” доме №35 па Кісялёва жылі гэткія класікі нашага мастацтва, як жывапісец Натан Воранаў, выбітны педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. У 1960 годзе Воранаў быў абраны старшынём Саюза мастакоў Беларусі. Жыла тут і скульптарка Вера Козак. Тут жа сама жыў жывапісец Канстанцін Камачоў, ветэран вайны, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча. А ў доме №27 па Кісялёва жыў яго́ны калега, таксама выкладчык мастацкага вучылішча, слынны мастак-педагог, вялікі малявальшчык, Алег Луцэвіч, які ў вайну быў партызанам, а пасля стаў адным з першых супрацоўнікаў музея Вялікай Айчыннай вайны. Працуючы настаўнікам у Мастацкім вучылішчы імя Глебава, Луцэвіч стварыў вакол сябе ўнікальнае кола вучняў, якім прышчапіў на ўсё жыццё ахвярную адданасць мастацтву.



У доме №32, па цяперашняй вуліцы Камуністычнай, былой Мопраўскай, прайшлі дзіцячыя гады Мікалая Пратасава, мастака-канструктара “Белбытрэкламы”, чый бацька быў адным з рэдкіх тубыльцаў гэтага раёна, чыя сям'я мела ўласны дом на Старажоўцы яшчэ да вайны. А ў 1946 годзе яны атрымалі тут кватэру на Асмалоўцы, у тым самым квартале, дзе жылі й да вайны. Тут нарадзіўся й вядомы інжынер Георгі Пратасаў – галоўны канструктар “Мінскметропраекта”.













На Асмалоўцы да сёння жывуць мастак Уладзімір Ткачоў, мастакі-графікі Раман Сустаў і Аляксей Навіцкі, літаратар і фатограф, стваральнік і рэдактар альманаха “Монолог” Аляксей Андрэеў, заслужаная артыстка Беларусі Тамара Глаголева. А ў тутэйшых мансардах месцяцца мастакоўскія майстэрні. Тут працавалі й працуюць надалей такія славутыя мастакі, як Леанід Гоманаў, Вячаслаў Паўлавец, Анатоль Бяляўскі, Рыгор Несцераў, Мікалай Мішчанка, Руслан Вашкевіч, Уладзімір Новак, Алег Ладзісаў.

**Today, in Asmałoŭka, there live artist Uładzimier Tkačoŭ, graphic artists Raman Sustaŭ and Alaksieĭ Navicki, writer and photographer, the founder and editor of the "Monologue" almanac Alaksieĭ Andreïeŭ, Honored Artist of Belarus Tamara Hłaholeva. Local mansards house artists' studios. Here worked and still work well-known artists - Leanid Homanaŭ, Viačasłaŭ Paŭłaviec, Anatol Bialaŭski, Ryhor Nieścieraŭ, Mikałaï Miščanka, Rusłan Vaškievič, Uładzimier Novak, Aleh Ładzisaŭ.**









DREAMS

# МРОІ І МАРЫ

За дзясяткі паваенных гадоў на Асмалоўцы вырасла тры пакаленні мінчукоў. А разам з імі ў тых кварталах вырас зялёны парк, на месцы здавён урobленых садоў і агародаў яшчэ XIX стагоддзя. У выніку паўстала ўнікальная гарадская экасістэма, дзе, паводле падлікаў эколагаў, расце сёння больш як паўтары тысячы дрэваў. А з іх блізу 700 экзэмпляраў, старэйшых за 45 і нават за 70 гадоў. У шатах гэтых дрэваў гняздуюць і жывуць тысячы птушак розных відаў, а на старых паддашках зайшлі сабе дом і кажаны. Такім чынам, гэтае месца, сярод іншага – адзіны такога кшталту асяродак жывое прыроды ў жылых кварталах Мінска. І, дзякуючы спецыфіцы планіроўкі, фактычна ёсць першай гатовай пешаходнай зонаю ў сталіцы Беларусі.

**During the post-war years, three generations of Minsk residents have grown in Asmałoŭka. And together with them, in these quarters, a green park has appeared, replacing the gardens and backyards of the 19th century. As a result, today this forms a unique city ecosystem where, according to environmentalists, there are more than 1,500 trees. About 700 of these trees are more than 45 years old, and even 70 years old. Thousands of different kinds of birds live in these trees, and there are bats in the old attics. Thus, this place, inter alia, is a unique house for wildlife, the only one of its kind in Minsk. Also, thanks to its distinctive layout, it is actually the first ready-made pedestrian precinct in the capital of Belarus.**



Гэтыя два кварталы ёсць унікальным архітэктурным ансамблем, дзе ўвасобіліся праекты славутых беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх савецкіх архітэктараў – Міхаіла Асмалоўскага, Міхаіла Парусьнікава, Міхаіла Ручко, Абрама Даніляка ды Івана Собалева, чыя творчасць сёння ёсць класікай архітэктуры былых рэспублік СССР. Дзякуючы свайму высокаму статусу як раёна для вышэйшых афіцэраў Беларускае акругі, мастакоў і артыстаў, раён заўсёды даглядаўся і эксплуатаваўся належным чынам. Таму на Асмалоўцы ўнікальная забудова зберагласся як цэласны архітэктурна-прыродны комплекс, у адрозненне ад падобных кварталаў у Днепрадзяржынску, паасобных будынкаў з тыпавых серыяў 1-205 у іншых суседніх краінах. Таму гэты ансамбль забудовы мае на сёння і міжнароднае культурна-гістарычнае значэнне як комплекс, што збярог сваё першапачатковае аблічча і першаснае прызначэнне.

За 70 гадоў жыцця і творчасці тут мастакоўскіх і артыстычных сем'яў Асмалоўка набрыняла сваёй культурнай памяццю. І толькі гэты раён можна ў метафарычным сэнсе называць мінскім Манмартрам, дзе працавалі й працуюць да сёння мастакі чатырох пакаленняў! Вобразы і мроі сваіх дамоў і двароў яны ўвасобілі ў тысячах твораў мастацтва. Такім чынам, Асмалоўка сама сталася яркім вобразам беларускае культуры – аб'ектам творчасці і крыніцаю натхнення.

Як раён, непасрэдна звязаны з імёнамі братоў Машэравых, камандзірамі і кіраўнікамі Беларускае вайсковае акругі, савецкім і партыйным кіраўніцтвам БССР, юрыстаў і работнікаў пракуратуры, Асмалоўка – важны помнік і сімвал

These two quarters are a unique architectural ensemble where projects of well-known Belarusan, Russian, and Ukrainian Soviet architects were embodied - Michajił Asmałoŭski, Mikhail Parusnikov, Mikhail Ruchko, Abram Danilyak, and Ivan Sobolev, whose creativity today is the classic of architecture of the former republics of the USSR. Thanks to its high status as an area for higher officers of the Belarusan Military District, artists, and actors, this area was always treated and maintained properly. Therefore, in Asmałoŭka, the unique housing system has been preserved as a complete architecturally-natural complex, unlike a similar quarter in Dniprodzerzhynsk and separate buildings (typical series №1-205) in other neighboring countries. Therefore, today, this ensemble is of international cultural-historical importance as a complex that still retains its initial shape and primary function.

Here, after 70 years of the life and creativity of artists and artistic families in Asmałoŭka, this district now has its own cultural memory. And only this area can be metaphorically called Minsk's Montmartre, where four generations of artists have been working! They have embodied the images and dreams of their houses and courtyards in thousands of works of art. Thus, Asmałoŭka has become a vivid image of Belarusan culture – a place of creativity and a source of inspiration.







беларускае дзяржаўнасці. У Мінску гэтыя кварталы зрабіліся неад'емнай часткаю цэнтра горада разам з найважнейшымі аб'ектамі нацыянальнага маштабу – будынкамі Оперы, Сувораўскага вучылішча, Міністэрства абароны і радыё. Змена маштабу забудовы і характар жылля тут будзе азначаць і вялікую шкоду для гэтых аб'ектаў гісторыка-культурнае спадчыны Беларусі.

Якім мог бы быць раён Асмалоўкі ў будучыні? Зялёнай паркавай пешаходнай зонай з аб'ектамі культуры, помнікамі й мемарыяламі ў памяць тых людзей, чые лёсы і творчыя мары спляліся ў гэтым месцы. Тут маглі б праходзіць фэсты вулічных тэатраў, канцэрты і выставы. У памяшканнях былога бамбасховішча можна было б стварыць крэатыўную прастору для баўлення вольнага часу і для знаёмства з гісторыяй сярэдзіны мінулага стагоддзя. На Асмалоўцы самае месца для мастацкага музея, з працамі дзясяткаў мастакоў, што ўвасаблялі ў сваіх работах і гэтыя кварталы, і адроджаны па вайне Мінск. Тут можа быць і галерэя найноўшага мастацтва, што проста сёння, на нашых вачах, у сваіх майстэрнях ствараюць мастакі. І мастацкі салон. І фотаатэлье. І антыквар. А перадусім тут павінны жыць і ствараць, кахаць і марыць, працаваць і адпачываць людзі. Звычайныя і незвычайныя людзі, тыя, хто любіць гэтыя муры свае і зберагае жывую пульсуючую памяць Асмалоўкі.













## ЛІТАРАТУРА:


Асмалоўскі Міхаіл Сцяпанавіч // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. У 12 т. Т. 1: А-Афіна. — Мінск: БелСЭ, 1969. — С. 518.

Асмалоўскі Міхаіл Сцяпанавіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 1. А капэла — Габелен. — Мінск: БелСЭ, 1984. — С. 206.

Балет: энциклопедия / Гл. ред. Ю. Н. Григорович. — М.: Советская энциклопедия, 1981.

Бон Т. "Мінскі феномен". Гарадское планаванне і ўрбанізацыя ў Савецкім Саюзе пасля 1945 г. / Томас М. Бон — Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016.

Гісторыя беларускага мастацтва. Том 5. 1941 — 1960-я гг. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992.

Воинов А. История архитектуры Белоруссии. — Минск, 1975. С. 71.

Даниляк А. З. Общественные здания за рубежом (Проектирование и строительство): Сборник статей. — Москва: Госстройиздат, 1962.

Осмоловский М. С. Минск. — Москва, 1950.

Осмоловский М. С. Минск: Градостроительство столицы Советской Белоруссии. — Минск, 1952.

Сацукевіч І. І. Кварталы 1945–1950 гадоў пабудовы ў прадмесці Старажоўка. — Мінск, 2016.


## АЎТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ:


Ідэя : АНДРЭЙ ЭЗЕРЫН

Тэкст : СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ

Дызайн : ВІТАЛЬ РАКОВІЧ, «СТУДЫЯ R2»

Фотаздымкі : ВІТАЛЬ РАКОВІЧ
ДЗМІТРЫЙ БЕЛЬСКІ
ІРЫНА ДАЙНАКОВА
АНДРЭЙ РАГАТКІН
АНДРЭЙ ЭЗЕРЫН
ЗОЯ АЛЕЙНІКАВА

Рэдактар : АЛЕНА ЛЯНКЕВІЧ

Перакладчык: АНДРЭЙ БУРСАЎ


## ВЫДАВЕЦ:



